Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная часапісь, выходзіць 4 разы ў месяц

Цана асобнага нумару 15 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі
Вільня, Мэтрапалітальны пл. 3/12.
Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 г. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

ПАДПІСКА з дастаўкай да хаты: на 1 год 4 зл 50, за паўгоду 2 зл. 40, за 3 месяцы 1 зл. 30, за 1 месяц — 50 гр.

Год II. | Вільня, 9 кастрычніка 1932 г. | № 28 (58)

## Аднолькавыя мэтады — аднолькавая рызыка.

Нацыяналізм — гэта хвароба народаў, якая бадай усюды выяўляецца ў аднолькавых формах. Прынамся ў тых выпадках, дзе ў дзяржаве — побач з нацыяй „дзяржаўнай"—есьць і так-званыя „нацыянальныя меншасьці", падпарадкаваныя волі „большасьці".

Да вайны мы бачылі два тыпы дзяржаў, розна адносіўшыхся да сваіх меншасьцяў. З аднаго боку стаяла царская Расея, якая была „турмой народаў", як увесь свет называў яе за ўціск нацыянальных меншасьцяў. З другога — Аўстрыя, дзе ўсе меншасьці карысталіся шырокімі правамі дзеля разьвіваньня нацыянальнае культуры і ўсіх нацыянальных уласьцівасьцяў, а польскі народ заклаў свой нацыянальны П'емонт. І характэрна тое, што розьніца ў адносінах да меншасьцяў у гэтых дзяржавах была зьвязана з розьніцай у дзяржаўнай сыстэме Расеі і Аўстрыі: у Расеі панавала самадзяржаўе, і грамадзянства было зусім пазбаўлена голасу ў дзяржаўным жыцьці ажно да рэвалюцыі 1905 году; у Аўстрыі была канстытуцыйная манархія, і голас шырокіх масаў у венскім парляманьце і краёвых соймах Аўстрыі меў надта вялікую вагу.

Калі ў Вэрсалі — пасьля Сусьветнае вайны — перакраівалася карта Эўропы і замацоўваліся граніцы новых незалежных гаспадарстваў, дык сярод тварцоў новае Эўропы панавалі вельмі дэмакратычныя настроі. І калі прадстаўнікі тых народаў, якім не ўдалося адваяваць для сябе дзяржаўнае незалежнасьці, рашуча пратэставалі проці аддачы іх пад уладу іншых народаў, дык сябры Вэрсальскае Канфэрэнцыі — мо' навет і зусім шчыра — супакойвалі пакрыўджаных тым, што пры дэмакратычным ладзе ў пануючых над імі гаспадарствах ім няма чаго баяцца нацыянальнага ўціску, дый ад апошняга іх будзе бараніць міжнародавы трактат аб ахове правоў меншасьцяў.

Праўда, у некаторых з новапаўстаўшых дзяржаваў спачатку запанавалі шчыра дэмакратычныя элемэнты, і, прыкладам, Латвія першая пасьпяшыла забясьпечыць правы сваіх меншасьцяў дзяржаўнымі законамі. На гэтай падставе атрымала магчымасьць распачаць шырокую культурна-асьветную працу ў роднай мове і *беларуская меншасьць.* Але мінулі гады, у ўнутраным жыцьці Латвіі пачалі рабіцца глыбокія зьмены, і вось у выніку гэтых зьменаў такія сьветлыя будаўнікі, як Райніс, Мэеровіц, Чакстэ, Целенс і іншыя, або зыйшлі ў магілы, або аказаліся адсунэнымі ад кіраўніцтва дзяржаўным жыцьцём, а іх мейсца занялі латышскія нацыяналісты. І хвароба нацыяналізму глыбака ўелася ў латвійскі дзяржаўны арганізм: у апошнія гады мы бачылі цэлы рад выступленьняў улады, якія выразна скіраваны да зьнішчэньня нацыянальных меншасьцяў Латвіі.

Напачатку гэтае стацьці мы адзначылі, што хвароба нацыяналізму выяўляецца ў аднолькавых формах. І вось доказ гэтага:

Мы неаднакротна падавалі інфармацыі аб тым, што нацыяналістычна настроенае польскае абшарніцтва ў *Заходняй Беларусі* праз сваю прэсу заклікае дзяржаўную ўладу Польшчы павясьці акцыю нішчэньня меншасьцяў, *пачынаючы ад найслабейшае сягоньня, але здольнае да шыбкага росту ў будучыні: ад беларусаў.* Тое-ж самае бачым у *Латвіі:* і там нацыяналістычны ўрад, ламаючы добрыя традыцыі папярэдніх соцыялістычных урадаў, *распачаў барацьбу з сваімі меншасьцямі ад — беларусаў.* Як і ў нас — насамперш была зьвернена ўвага на беларускія гімназіі. І вось — найстарэйшая з іх, існуючая ўжо 10 гадоў, *дзяржаўная* беларуская гімназія ў Дзьвінску з ініяцытывы міністра асьветы Кенінша мае *зачыніцца,* і гэтак на ўсю Латвію астанецца толькі адна прыватная беларуская гімназія. Міністар пры гэтым адкрыта заявіў, што ён і рада міністраў кіруецца ў сваёй пастанове *данымі палітычнае паліцыі,* — тэй самай, якая ў Латвіі здаўна апанавана чорнасоценнымі элемэнтамі і ўжо раз пробавала сфабрыкаваць проці беларусаў палітычны працэс, які закончыўся, як ведама, поўным апраўданьнем на судзе ўсіх абвінавачаных беларускіх дзеячоў. Але тады былі іншыя настроі ў Латвіі; цяпер палітычная паліцыя знайшла больш адпаведных людзей у складзе нацыяналістычнага ўраду і — дабілася свайго. Характэрна, што дэлегацыі з'арганізаваных беларускіх вучыцялёў міністар Кенінш сказаў, што палякоў ён лічыць вялікімі нацыяналістамі, але — надта лёяльнай меншасьцяй; беларусы-ж зьяўляюцца на яго пагляд нявыразнымі і няпэўнымі ў партыйным сэньсе...

Так сыстэма нішчэньня ў першы чарод тых нацыянальных меншасьцяў, якія *маюць вялікія магчымасьці перад сабой, але сягоньня йшчэ слабыя,* знайшла аднолькавых паклоньнікаў як сярод польскіх, так і латышскіх нацыяналістаў. Ці яна дасьць пажаданыя для іх вынікі — гэта ўжо іншая справа. Адно мусім сказаць: у беларусаў, праўда, лягчэй, чым у іншых народаў, зьнішчыць тую культурную надбудоўку, якой ёсьць сярэднія школы і іншыя культурныя ўстановы, створаныя нацыянальна сьведамай інтэлігенцыяй. Але няхай паны нацыяналісты ўсіх відаў і гатункаў, як у Польшчы, так і ў Латвіі, не забываюцца, што гэтым яны ўсё роўна *не прыбяруць у свае рукі і не зьядуць беларускае народнае масы, якая, пазбаўленая сваей інтэлігенцыі — сваіх натуральных павадыроў, вельмі лёгка можа зыйсьці на такі шлях, каторага напэўна не хацелі-бы бачыць нацыяналістычныя палітыкі наабапал польска - латвійскае граніцы.*

Проці нягоднае, роўна шкоднае і небясьпечнае і для беларускае меншасьці, і для латвійскага гаспадарства, палітыкі латышскіх нацыяналістаў мы *рашуча пратэстуем* і праз гранічную мяжу *шлем нашым братом у Латвіі* *словы шчырага спогаду і гарачае пажаданьне вытрываць у абароне сваіх правоў.*

## Замах на Дзьвінскую Дзяржаўн. Беларускую Гімназію.

Пасьля паходу, распачатага ўлетку г. г. гуртком шовіністаў у Люцыне на Люцынскую беларускую асноўную 6 ціклясовую школу, зара' зроблены замах на найгалаўнейшую беларускую асьветную пляцоўку ў Латвіі—на Дзьвінскую Дзяржаўную Беларускую гімназію. Міністар асьветы, гр. Кенінш, ужо з вясны распачаў рыхтаваць удар па Дзьвінскай беларускай гімназіі: у гімназію пачалі наведвацца розныя ўрадоўцы, пасыпаліся рэвізіі і запросы, пачалося зьбіраньне розных вестак аб вучыцялёх і вучнях, якія маглі-б быць хоць якой колечы падпорай і апраўданьнем для намечанага разгрому гімназіі. Адначасна варожая беларусам рука распачала ганебную кампанію супраць Дзьвінскае беларускае гімназіі ў латышскай прэсе. Зьмяшчаліся розныя ілжывыя весткі з Дзьвінску, якія павінны былі настраіваць латышскае грамадзтва супраць гімназіі і беларусаў, а калі гімназія пасылала спраставаньні, дык іх або зусім не друкавалі, або зьмяшчалі самым дробным шрыфтам дзе-небудзь у канцы, каб іх не заўважыў чытач, які прачытаў за пару дзён перад гэтым грамовую зацемку супраць беларусаў.

Такім чынам, пачала паўтарвацца—знаёмая ўжо беларусам па вядомаму Беларускаму Працэсу 1924 25 году — „падрыхтоўчая кампанія". Беларускае грамадзтва занепакоілася, бо стала ясна, што нехта і нешта рыхтуе для нас шкоднае, аднак, з якога боку, кім і ў якой форме намячаецца ўдар, — беларускае грамадзтва ня ведала і падрыхтавацца да адбіцьця гэтага ўдару не магло. Таму, калі 25 жніўня, за паўгадзіны да сходу Рады Міністраў, міністар асьветы паклікаў кіраўніка Беларускага Аддзелу пры Міністэрстве Асьветы гр. Ул. Пігулеўскага і паведаміў, што ён зара' едзе на сход Рады Міністраў і паставіць тамака пытаньне аб ліквідацыі Дзьвінскае Беларускае Дзяржаўнае гімназіі,—кіраўнік Беларускага Аддзелу аказаўся ўжо ня ўсілах змабілізаваць беларускае грамадзтва і папярэдзіць яго аб намерах міністра. Міністар асьветы накіраваў-

ся на сход Рады Міністраў і, апэруючы тамака афіцыйнай паперай-даносам на Дзьвінскую гімназію з боку палітычнае паліцыі, пачаў дамагацца зьліквідаваньня гэтае гімназіі. Рада Міністраў не ўхваліла ў гэтай справе ніякае пастановы, але і не забараніла міністру намечанае ім паступовае ліквідацыі гімназіі, спачуваючы прыняўшы ягоныя пляны да ведама.

Калі беларускае грамадзтва ў Рызе і ў Дзьвінску даведалася на другі дзень з прэсы аб кроках міністра асьветы,—зараз-жа і ў Рызе і ў Дзьвінску былі склікамы надзвычайныя сходы розных таварыстваў, якія выступілі з пратэстамі супраць парушэньня правоў беларускае меншасьці на сваю нацыянальную школу і ўхвалілі накіраваць да міністра асьветы і да ўсіх сяброў Рады Міністраў асобныя дэлегацыі з мэмарандумамі, ў якіх бараніць агульнае права беларусаў на асьвету ў сваей роднай мове і Дзьвінскую Беларускую Дзяржаўную гімназію, як найбольш важную беларускую асьветную ўстанову. Гутаркі з міністрам асьветы гр. Кеніншам і міністрам-прэзыдэнтам гр. Скуенэкам не далі тых здавальняючых вынікаў, на якія беларускае грамадзтва спадзявалася, а таму зара' справа Дзьвінскае беларускае гімназіі перадаецца беларусамі ў Сэнат, куды падаецца скарга бацькоў гімназіі на міністра асьветы, які зачыніў 1-ю клясу Дзьвінскае гімназіі, хаця-ж Сойм Латвійскі асыгнаваў у свой час сродкі на ўсе клясы гімназіі цалком.

Беларускае грамадзтва спадзяецца, што Закон і Сэнат стануць у абарону прадугледжаных законам правоў беларускае меншасьці, і з нецярплівасьцю будзе чакаць вынікаў гэтае скаргі. Да часу-ж пастановы Сэнату, вучні 1-й клясы гімназіі, якія ў ліку 29 чалавек былі ў гэтым годзе прыняты ў гімназію і ўжо зьехаліся ў Дзьвінск на заняткі, зара' разьехаліся па хатах і сядзяць без асьветы і працы, чакаючы высьвятленьня свайго лёсу.

Каб паменшыць і затушаваць ад'емнае ўражаньне, зробленае на ўсю беларускую меншасьць і на прагрэсыўныя колы латвійскае грамадзкасьці загадам аб паступовай ліквідацыі Дзьвінскае беларускае гімназіі, міністар асьветы надумаўся зара' адчыніць пры Дзьвінскай латышскай гімназіі беларускія паралельныя клясы (ў гэтым годзе толькі адную першую клясу) з выкладаньнем у беларускай мове, з шырокім звальненьнем незаможных вучняў гэтае клясы ад платы за навуку і з выдачаю, навет, стыпэндый асабліва незаможным вучням. Уся гэтая зацея будзе каштаваць куды даражэй, чым зачыненая пры беларускай гімназіі першая кляса, але міністру асьветы ходзе не аб эканоміі: грошы яму ня шкода, абы толькі ўдалася задуманая ім справа зьнішчэньня беларускае гімназіі. Аднак, беларускае грамадзтва ведае запраўдную прычыну ўсіх гэтых спозьненых міласьцяў: па думцы беларускае грамадзкасьці, усе гэтыя міласьці зьяўляюцца толькі новым спосабам, каб ня кіём, дык пірагом зацягнуць беларусаў у латышскую гімназію і гэтым аслабіць змаганьне бацькоў за сваю нацыянальную беларускую гімназію. Таму трэба думаць, што бацькі вучняў на гэтую вудачку ня пойдуць і будуць чакаць вынікаў разгляду справы ў Сэнаце.— Лепш 29 вучням страціць некалькі месяцаў, а то і цэлы навет навучальны год, чым сваім уступленьнем у паралельку дапамагаць міністру пакрыўдзіць усю беларускую меншасьць і сваімі рукамі дапамагчы яму ў паступовай ліквідацыі Дзьвінскае Беларускае Дзяржаўнае Гімназіі.

(„Белар. Школа ў Латвіі“).

# „Ніводнага сялянскага сына“...

Такі загаловак даў найпаважнейшы орган санацыйна-кансэрватыўны — кракаўскі „Час“—сваёй перадавіцы ў адным з апошніх нумароў, якая гаворыць аб выніках новага закону аб падвышэньні платы за навуку ў сярэдніх і вышэйшых школах.

„Пры сёлетнім прыйме ў сярэднія і вышэйшыя школы выявіўся яшчэ адзін вынік крызісу: лічба паступаючых сялянскіх сыноў, якая зьмяншалася ўсьцяж у працягу апошніх 2 гадоў, зьменшылася яшчэ больш. Урэшце на адзін з факультэтаў Ягелёнскага Унівэрсытэту (ў Кракаве) не падаў просьбы аб прыймо ні адзін сялянскі сын“.

Далей паважная газэта кракаўскіх санацыйных прафэсароў піша, што, пэўне-ж, добра тое, што наагул мае зьменшыцца ў Польшчы лічба інтэлігентаў, якія твораць найбольш цяжкія кадры беспрацоўных. Але трэба, каб гэтае зьмяншэньне лічбы інтэлігенцыі адбывалася больш-менш роўна ў-ва ўсіх клясах і станах насяленьня Польшчы. Але вельмі небясьпечна, калі зьмяншэньне гэтае будзе адбывацца **коштам, прыкладам, аднэй толькі сялянскай клясы.** Тады вынікі гаспадарчыя, палітычныя і сацыяльныя будуць вельмі балючыя для дзяржавы. Бо-ж гэта створыць ці павялічыць **прорву паміж вёскай і местам, паміж дзяржавай, якой кіраваць будуць заўсёды колы інтэлігенцыі, і сялянствам,** прыпыняючы важныя працэсы ўзаемнага прасяканьня вёскі і места, культурнай дзяржавы і сялянства. — Шалеючы гаспадарчы крызіс, які забівае дарэшты вёску, ўжо небясьпечна прыпыніў гэты важны працэс—на вялікую шкоду польскай дзяржавы.

Тую-ж думку аб „школьнай трагэдыі сялянскіх сыноў“ разьвівае ў адным з сваіх нумароў кракаўскі орган опозыцыйнай польскай хадэцыі, „Глос Народу“.

Абедзьве польскія газэты звярачаюць увагу ўраду і грамадзянства на гэтую **трагэдыю польскага сялянства,** якая можа ў далейшым стацца — трагэдыяй Польскай дзяржавы...

Але польскае сялянства мае прынамся сваю пачатковую школу ў роднай мове, якой **беларускае сялянства** блізу што ня мае. Дык **трагэдыя беларускага сялянства—яшчэ горшая...**

# Агонія Лігі Нацыяў.

На нашых вачох Ліга Нацыяў перажывае глыбокі крызіс, які, як даводзяць некаторыя выдатныя эўрапэйскія публіцысты, лепш назваць хіба-ж агоніяй... Найцяжэйшы ўдар у апошнія часы зрабіла Лізе Японія. Бо яшчэ ў апошнія дні Ліга згадзілася на цынічнае дамаганьне Японіі—даць ей 6 тыдняў „на азнаямленьне“ з рапартам манчжурскай камісіі, а ўзапраўднасьці — на тое, каб мець час закончыць крывавыя ваенныя апэрацыі ў Манчжурыі... Тякім чынам, замест таго, каб, як таго вымагае Статут Лігі, за ўсялякую цану спыніць вайну, пачаўшуюся ізноў між сябрамі Лігі, Ліга сама дазволіла аднаму з іх біць другога. Гэтым Ліга канчальна забіла сябе маральна. Але, зьлякаўшыся маладушна Японіі, Ліга гэтай сваей уступкай ей якраз ня здолее і ўдзяржаць яе ў сваім складзе. І запраўды-ж зараз-жа пасьля гэтай ганебнай уступкі японскі ген. Аракі, які фактычна кіруе ўсей ваенна-імпэрыялістычнай палітыкай Японіі, у гутарцы з журналістамі паказаў, як адносіцца цяпер Японія да Лігі, і чаго апошняя можа спадзявацца ад Японіі.

Ген. Аракі заявіў, што Японія астанецца ў складзе Лігі толькі пад варункам што Ліга ня будзе мяшацца ў справу японскае акцыі ў Манчжурыі, у якой Ліга нічога разумець ня можа. У праціўным выпадку Японія ня толькі выйдзе зараз-жа з складу Лігі, але і заложыць новую Лігу Нацыяў— азіяцкую. Такім чынам Японія загадывае Лізе замест таго, каб самой падпарадкавацца аўтарытэту апошняе...

Ня лепш стаяць фонды Лігі і ў яе эўрапэйскіх клапотах, у першую чаргу ў справе Нямеччыны, а таксама ў справах „гаспадарчага супрацоўніцтва“, а асабліва-ж —разбраеньня.

У цэнтры ўсіх гэтых справаў ляжыць **барацьба Нямеччыны з Францыяй.** Пакуль жылі Штрэзэман і Брыян, барацьба гэтая праходзіла ў дыплёматычных формах і выражалася ў чарговых актах паразуменьня. Паразуменьні гэтыя адбываліся ў лоне Лігі Нацыяў, і гэта давала ей сілу і сэнс жыцьця, гарантавала мірнае разьвіцьцё паваеннай Эўропы. Цяпер Нямеччына рубам паставіла справу блізу поўнага скасаваньня Вэрсальскага Трактату, ахова якога зьяўляецца статутова блізу галоўнай мэтай Лігі. Францыя таксама рашуча адказала адмовай, і Ліга пачала трашчэць па ўсіх швах. Насамперш Нямеччына заявіла, што ня будзе прымаць учасьця ў разбраенчай канфэрэнцыі (арганізаванай Лігай), пакуль ня споўняць яе дамаганьня раўнапраўя у збраеньнях (скасаваньня найважнейшага аддзелу Вэрсальскага Трактату).

Тое, што дзеецца ў апошнія дні ў Жэнэве, кажа аб поўным развале ў Лізе, як і ў лоне канфэрэнцыі ў справе разбраеньня. Старшыня нямецкай дэлегацыі, міністар Нэйрат, ня гледзячы на ўсе высілкі старшыні англійскай дэлегацыі, ня толькі не захацеў спаткацца з французскім прэм'ерам Эрыё, але навет дэманстрацыйна выехаў у Бэрлін у дзень прыбыцьця Эрыё ў Жэнэву дый яшчэ напярэдадні вялікай прамовы апошняга на канфэрэнцыі. Каб яшчэ больш падчыркнуць разрыў Нямеччыны з Лігай, нямецкі міністар даў востры адказ з Бэрліну на жэнэўскую прамову Эрыё. Адказ абурыў усю французскую прэсу, якая слушна сьцьвярджае, што ўся тактыка нямецкага ўраду ясна паказывае, што Нямеччына трэбуе ня гэтулькі роўнасьці, колькі поўнай свабоды збраеньняў, не жадаючы навет падпарадкавацца ніякаму кантролю з боку Лігі, навет калі гэты кантроль будзе роўны для ўсіх, як мае гэта апрацаваць разбраенчая канфэрэнцыя. Гэта выразна сьцьвярдзіла і апошняя прамова старшыні нямецкай дэлегацыі, міністра замежных спраў Нэйрата. Такім чынам, Нямеччына зрабіла Лізе ў Эўропе такі самы сьмяротны ўдар, як Японія ў Азіі.

У іншай галіне — гаспадарчай — навет французская прэса сьцьвярджае, што ад 1927 г. арганізацыйнае бясьсільле Лігі расьце поруч з гаспадарчым крызісам. Апошняя канфэрэнцыя ў Стрэзе, як мы ўжо высьветлілі, даводзіць гэта бясспрэчна.

Як быццам сымболізуючы запраўды канец Лігі, адыходзіць ад працы ў ёй фактычны тварэц усяго працоўнага апарату Лігі, яе генаральны сэкратар сэр Эрык Друмонд, які падаўся ў адстаўку. Жэнэўская прэса не хавае праўды аб тым, што ў апошнія гады ўся Ліга трымалася толькі дзеля яе высокакваліфікаванай і спраўнай бюрократычнай машыне, якую нарыхтаваў і якой кіраваў гэты Эрык Друмонд.

Але і гэта не канец бедам Лігі. Як сьцьвярджае яе сэкратарыят, дзяржавы-сябры Лігі вельмі неахвотна дый неакуратна плацяць у яе касу свае сяброўскія складкі, ужо гэтым разваліваючы яе выканаўчы апарат... За кожнай блізу дзяржавай, навет з ліку найбагацейшых, лічацца вялізарныя залеглясьці... У хуткім часе ўрадоўцы Лігі, якім яшчэ так нядаўна жалося ня горш, як амэрыканскім мільянэрам, перастануць, як шмат дзе і ўрадоўцы дзяржаўныя, атрымліваць пэнсіі..

Такім чынам—самі сябры Лігі забіваюць яе маральна, палітычна, арганізацыйна і фінансова... Дык ясна, што нідзе на гэта ратунку яна ня знойдзе...

———

Ліга Нацыяў стварылася пасьля і ў выніку страшэннага досьледу вайны, якая была выклікана ваенна-гаспадарчымі супярэчнасьцямі паміж дзяржавамі. Ліга Нацыяў зьявілася спробай арганізаваць сужыцьцё і супрацоўніцтва дзяржаваў на аснове нейкага „адзінства“. Але „адзінства“ гэтае было неяк асягнена дзякуючы таму, што Нямеччына была пабіта, Расея наагул выбыла з строю сусьветных дзяржаваў, Злучаныя Штаты пасьля вайны адыйшлі з Эўропы ў сваю „Амэрыку для Амэрыканцаў“. Такім чынам „Ліга Нацыяў“ была, па сутнасьці, органам волі і ўлады толькі дзьвюх наймагутнейшых дзяржаваў Эўропы: Англіі і Францыі, найбольш здабыўшых у выніку вайны. Цяпер на нашых вачох адрадзілася блізу цалком даваенная сіла Нямеччыны, вяртаецца паволі ў сям'ю культурных дзяржаваў „Расея“, абураецца ўсё больш проці англа-французкай дыктатуры ў Эўропе Італія, усё часьцей цікавіцца справамі Эўропы Амэрыка... Дык ня дзіва, што гэная першапачатная **Ліга Нацыяў пачынае канаць.**

Як пойдзе далейшая гісторыя сьвету: ці назад — да старое сыстэмы „палітычнай раўнавагі“ дзьвюх вялізарных групаў дзяржаваў—з Англіяй, ці можа ўжо Амэрыкай пры стрэлцы вагі; ці можа — у кірунку ней-

у справе агульна-індыйскага палітычнага аб'яднаньня ў супольным проці-англійскім фроньце —як у краі, таксама і на блізкай ужо новай англійска-індускай канфэрэнцыі ў Лёндане. Але ў апошнія дні раптам прыйшоў у вастрог загад англійскага губэрнатара, забараняючы Гандзі прыймаць у сябе ў цэлі гасьцей. Загад выклікавы быццам радам тэрорыстычных актаў, зробленых у апошнія дні проці англійцаў сябрамі партыі Гандзі (?).

Неяк зусім нядаўна галоўны рэдактар абшарніцкага „Слова" ўрачыста падаў да агульнага ведама, што група паслоў з Б. Б., якія, як ведама, прайшлі ў Сойм, як палякі, абвясьціла сябе беларускай і мае падаваць голас аб усіх беларускіх справах—ад імя беларускага народу.

У № 245 з 2 кастрычніка іншы перадавік тэй-жа газэты, п. Харкевіч, піша:

„Беларускі рух?... Гэты рух заслугуе на зьлітаваньне. Існуе жменя беларускае інтэлігенцыі, але да голасу даходзяць пераважна не беларусы, а лаўкачы (sprycіarze) розных нацыянальнасьцяў, якія падшываюцца пад беларусаў. Бо-ж найлягчэй паказваць сябе беларусам, ведаючы расейскую ды польскую мову і маючы трохі спрыту. Жыраваньне на беларушчыне прыняло ўжо такія формы, што на гук слова беларус родзіцца пытаньне: чаго ён хоча?"...

А ў № 246 „Слова" з 3 кастрычніка трэці перадавік п. m піша:

„Бясспрэчна, рух беларускі існуе. Беларускі мужык (chłop) чытае ўжо беларускія газэты і кніжкі, ведае, што ў гэтай мове можна друкаваць, што ня ёсьць гэта толькі язык „просты", але язык, каторым можна карыстацца ў роўнай меры на пісьме, як і ў слове..." Але... „у беларускім руху прымаюць удзел людзі, якія часта ня маюць нічога супольнага з беларускай нацыянальнасьцяй,—гэтым тлумачыцца жарт: беларус гэта не нацыянальнасьць, гэта—фах".

Аб кім гэта гавораць усе тры перадавікі „Слова"? Выглядае так, што ў абшарніцкай рэдакцыі запанаваў дзіўны разнабой: адзін рэдактар хваліць, а другія—ганьбуюць тых самых людзей...

А можа... можа паны абшарнікі ўбаяліся, каб факт стварэньня беларускае групы ў лоне Б. Б. ня прымусіў кіруючыя ў Польшчы сфэры да нейкіх уступак беларусам, і вось—на ўсякі выпадак—„Слова" стараецца наперад дыскрэдытаваць гэных новых беларусаў, не пасьпеўшых сябе йшчэ ні ў чым выявіць?! Магчыма і тое...

# ХРОНІКА.

— **Прадоўжаньне прыйма вучняў.** Згодна з дазволам Кураторыюму Віленскага Школьнага Округу, прыймо вучняў(-цаў) у-ва ўсе клясы **Беларускае Філіі Дзяржаўнай Гімназіі** ім. Ю. Славацкага ў **Вільні** і такое-ж філіі дзяржаўнае гімназіі ў Навагрудку прадоўжана **да дня 15-га кастрычніка 1932 г.**

Бацькі! Выкарыстайце гэта!

— **Запярэчаньне „Слову".** Надовячы мы падавалі вестку аб бязглуздай заяве абшарніцкага „Слова", што быццам дом пад беларускую бурсу ў Навагрудку пабудаваны за ахвяры польскага грамадзянства, а беларусы далі на яе... колькі сот злотых! Мы ўраз-жа запярэчылі гэтаму ў „Бел. Звоне",—а ў № 248 „Слова" запярэчыў ёй і старшыня польска-беларускай групы паслоў Б.Б. п. Шыманоўскі. Апошні заявіў дасло̆ўна наступнае:

„Работ зроблена на 111.000 зл., — пры чым большая часьць грошы атрымана з урадавых і самаўрадавых дапамог, а меншая — і то значна — **з ахвяр беларускага грамадзянства** Шмат фізычнае працы дала вучнёўская моладзь пры нівэляцыі пляцу, выгрузцы будаўляных матэрыялаў і г. п."

Калі-ж прымем пад увагу, што скарбовыя грошы і грошы самаўрадаў складаюцца з падаткаў, якія плаціць беларускае-ж насяленьне, — дык дзе-ж тыя „польскія" грошы, якія вібы-то даюць права беларускую бурсуператварыць у польска-беларускую? І чаму ніводная **польская** бурса, якіх у Польшчы— соткі, не ператвараецца ў „утраквістычную", а прымушаюць да такіх ахвяр толькі беларусаў?

— **Паветраны шлях Вільня-Менск.** З пачыну беларускага Менску распачаліся перагаворы ў справе прадаўжэньня існуючай паветранай камунікацыі Масква-Менск—да Варшавы праз **Вільню.** Такім чынам Вільня была-б злучана паветранай камунікацыяй з Менскам, а Варшава — ня толькі з сталіцай СССР, але і з Далёкім Усходам, з якім Масква ўжо мае сталую паветраную камунікацыю.

— **Патаньненьне цукру.** Нарэшце ўраду ўдалося змусіць цукроўнікаў, зарабляючых вялізарныя грошы ў часе агульнага крызісу і зьбядненьня, да зьніжэньня цэнаў на гэты важны прадукт спажываньня. Праўда, патаньненьне цукру нязначнае: толькі ўсяго на 20 грошы на кіляграме, што ня робіць яшчэ цукер даступным шырокім масам зьбяднеўшага насяленьня, асабліва на вёсцы; але й тое добра.

Нажаль—аб зьніжцы цэнаў на іншыя прадметы першае патрэбы, як вугальле, нафта, жалеза і інш., пакуль-што яшчэ ня чуваць, хаця пішуць і гутараць аб гэтым ужо шмат.

— **Першая нагарода — беларусу.** На адбытым у Варшаве конкурсе вучнёўскіх фатаграфіяў першую нагароду за фатаграфічныя зьнімкі атрымаў вучань восмае клясы Віленскае Беларускае Гімназіі Фёдараў.

— **Ахвяры для Беларускага Музэю.** За апошнія дні Беларускім Музэем ім. Ів. Луцкевіча ў Вільні атрыманы гэткія ахвяры: ад вучаніцы VII кл. В. Б. Г. Катковіч—2 манэты; ад гр. Ул. Самойлы—1 манэта і 2 беларускія паштовыя маркі; ад грам. М. Чарнэцкага — 3 медныя манэты; ад грам. М. Пецюкевіча — каменная сякерка, крамнёвая матычка, 3 манэты і мядаль. Апрача таго ад гр. А. Луцкевіча атрыманы, як дэпозыт, гіпсавыя мэдальёны — партрэты Б. Тарашкевіча і Фр. Аляхновіча работы Арлоўскага.

Дырэкцыя Музэю шчыра дзякуе ахвярадаўцам.

# Сэквэстратар.

„Сэквэстратар!"—крыкнуў хтосьці.
З ног звалілі "залеглосьці"
Дзядзьку Якава, які
На гумне рубаў пучкі.
Схамянуўся дзядзька Якаў:
Што рабіць?—пачаў маракаць:
Ці ўцячы з двара дзе ў лес,
Пакуль той шчэ ня прылез?
Ці ў салому дзе схавацца?
(Але знойдзе, каб іх трасца!).
Прападу ўжо, прападу!
Ды йшчэ жонка на-бяду
Сядзіць ў хаце, быццам скула!
Ай, халера: каб замкнула
Дый пайшла дзе на хвіліну!
Не! ўжо згіну, згіну, згіну!
Пабягу й скажу я жонцы—
Хай замкне дзьверы, ваконцы;
Сам схаваюсь: мо' міне...
Рушыў бегчы, бача — йдзе
Сэквэстратар, як злы дух!
Сьпёрся дзядзьку ў грудзёх дух...
Няма болей што рабіць!
Шапку зьняў, ідзе, дрыжыць,
А ў самога ў галаве:
„Усё праз жонку, праз яе!
Ня было-б яе у хаце,
Не пасьмеў-бы сам што ўзяці"...
Сэквэстратар-жа здалёк:
—„Чэго Якуб Галубок
Залеглосьці маеш тыле?!..
Тым юж разэм ці ня міне.
За працэнты і дадаткі
Вэзмэн тобе ўсе манаткі.
За паньствовэ, сэйміковэ
Пан пожэгнаш дзісяй кровэн...
За пазычку-ж із „Стэфчыка"
Не выстарчы ці й коніка".
Дзядзька Якаў штосьці пыкнуў, —
Сэквэстратар злосна крыкнуў:
—„Мільчэць, хаме! Наша паньства
Згубіць можэ таке хамства;
На вас тыле залегносьці".
— А Дзекоські?!*) дзядзька з злосьцю, —
Што зямлі вунь мае сьвет:
Заплаціў, скажы, ці нет?!
—„Як я відзэн, то ты мондры.
Гэй, солтысе, прэндзэй до мне!
Зараз браць му коня, кровэн
І манаткі вшыстке з дому".
Як машына, солтыс прэ—
Ужо каня, цяля бярэ;
У хаце дзежку ўзяў, пярыну,
Андарак зьдзер з Кацярыны;
На дадатак яшчэ сані,
Што пад шопаю стаялі,
Хамута йшчэ на каня—
Усё паклаў і прэ з двара
З сэквэстратарам ў Пружаны...
Якаў з жонкаю стаялі
Ды глядзелі ім у сьлед.
—„Гэтак, баба, табе й сьлед!—
Адазваўся першы Якаў.
„Задушу цябе, сабаку!
Каб пайшла дзе на той час,
Дык ня ўзяў-бы ён бяз нас.
А цяпер вось, бач, халера,
Цябе вылупіць аж верне!"
— „Што я вінна, Яшка любы?
Гэтак ўчора і ў Якуба
Зробілі, як сяньня ў нас.
Гэткі сяньня, Яшка, час!
Кінь злавацца... што паможа?
Эх ты, Божа, мілы Божа!
Ціж ня бачыш крыўды нашай?!
Ну, хадзем-жа ў хату, Яша!"
Якаў сплюнуў і заплакаў
Дый пайшоў за жонкай ў хату.

В. Шэні, 30 I 32 г. **М. Крывіцкі.**

*) Дзяконські—абшарнік у Пружаншчыне.



Рэдактар-выдавец: М. СІНЯЎСКІ. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22